IDW
#31 • CVR B
EASTMAN
WALTZ
CAMPBELL
PATTISON

# TEENAGE MUTANT NINJA TURTLES

ШЧЫРЫ ДЗЯКУЙ ЗА ПАДТРЫМКУ COMICSBY.BY:

Сяргей Лісічонак



Мне непрыемна гэта казаць, але ты ні ў адным Сусвеце няправы, Кейсі.

Ну нееее, Дон - вось гэта я заву лухтой сабачай...

NORTHAMPTON PART 3

...Проста не змешвай **матэматыку** са спортам, прыяцель. Ніколі. Гэта тое ж самае, што... што пайсці на выпускны баль са сваёй сястрой - гэта проста няправільна.

Каб ты ведаў, **саберметрыка*** цалкам змяніла бейсбольны бізнэс.

Да аднаго месца. Што я ведаю, дык гэта тое, што я магу добра прыпусціць уздоўж левай лініі поля, і мне не патрэбны для гэтага ні завумныя разлікі, ні гучныя словы.

*Саберметрыка - выкарыстанне статыстыкі для поўнага і дакладнага аналізу гульцоў у бейсболе.

Лічу, нам варта застацца пры сваіх пазіцыях наконт гэтага.

Нягледзячы на тое, што я цалкам правы.

Гэй!

Проста заўважыў.

Добра... Усё гатова.

Няма праблемаў, чувак. Яшчэ калі я быў дзіцём, мы з бацькам увесь час гэтым займаліся.

Файна. Нарэшце, яшчэ раз дзякуй, што дапамог з гэтым.

Ён нядрэнна ўмеў рамантаваць рэчы, пакуль не навучыўся ламаць іх яшчэ лепш.

Акрамя таго... Толькі не кажы ёй, што я такое сказаў... Але гэта весялей пахода ў бібліятэку з Эйпрыл.

Як усё адбываецца. Яна кажа, што ёй патрэбны хуткі інтэрнэт, але як толькі гэтая дзяўчынка дабіраецца да кніжак - яна тут жа забывае аб усім на свеце.


Ну, зараз я забіў бы за доступ да інтэрнэта - нават павольны дыал-ап бацькоў Эйпрыл.
Кажучы пра А'Ніл... Эйпрыл не расказала табе пра тое, што яе бацька працаваў над глеем у Стокгене?
Нічога сабе супадзенне, га?

Хех. Лёс і прызначэнне.
Што?
Нічога. Проста нешта, аб чым мы размаўлялі з Леа на днях.

Ну, што скажаш, завядзем гэту машыну?
Як раз збіраўся, бро.

VRMMM
VRMM

Ха! З першай спробы! Сябрук, ніколі б не падумаў, што мы прымусім працаваць старое іржавае вядро.
Трохі тут, трохі там - вось і ўсё, што спатрэбілася.
bump

І яшчэ шмат работы рукамі.
Кажу табе, прыяцель...

«...Гэта файна, што сюрпрызы бываюць **добрымі** хаця б час ад часу».
**Гэтага** я зусім не чакала ўбачыць...


...я лічыла, такім, як ты, **тай чы** не да спадобы.
Што? Недастаткова крыві і ўнутранасцяў на твой «футскі густ»?
Да заўвагі, Рафаэль: я знаходзілася ў складзе клана Фут зусім не для таго, каб забіваць.

Я... Я проста хацела быць часткай чагосьці.

Адчуваць сабе... патрэбнай.

Ведаеш, пасля мутацыі я была зусім сама не свая.
Я адчувала, як у мне дзіўна злучыліся дзве паловы, якія не былі прызначаны для гэтага, як... як у...
Як у вырадка?
Дакладна. Вырадка.
Але ўсё змянілася, калі Шрэдар прыняў мяне ў клан Фут.
Нейкі час я сапраўды лічыла, што знайшла свой дом. Мэту. Сям'ю.
Але гэта была хлусня. Усё гэта.
У мяне ўжо была сям'я, і Шрэдар забіў усё, як ён забівае ўсіх, каго лічыць бескарысным для сваіх складаных планаў. Бескарыснымі...
...і непатрэбнымі.
Гэй, не давай... Не давай сабе ўкіснуць з-за гэтага, Алапекс. Ды ўсім да ліхаматары, што там думае гэты крэтын Шрэдар! Калі казаць пра праблемы з галавой, дык у гэтага чувака іх звышдастаткова.
Паслухай, я некаторы час так сама быў адзінокі. Страчаны. Але я не скланіўся, спрабуючы знайсці сваё месца - і, у рэшце рэшт, знайшоў. Ты таксама знойдзеш. Проста ідзі наперад - і ўсё атрымаецца.
Так, у цябе ўсё **сапраўды** атрымалася, Рафаэль.
Гэй... Кліч мяне проста Раф.
















Што ж...
Гэта дастаткова цікава для цябе?


Як...


WUMP


...Нядрэнна для **пачатку**...
...Раф.


«Ты **нічога** пра мяне не ведаеш!»
«Ды не, наогул, я **шмат** што ведаю».


Рагх!
«Я ведаю, што адзінае, што ты любіш больш трэніровак...


«...Гэта рыхтавацца да іх».




SCHiNP


Выбачай калі ласка, што спыняю тваю трэніроўку, Леанарда...


...Калі ласка, не спыняйся з-за **мяне**.
Не... Не, гэта не з-за цябе. Я...
Мне проста патрэбны быў перапынак, вось і ўсё.


Сапраўды.


Ёсць людзі, якія вераць, што меч, які вынулі з ножан, ні ў якім раз нельга вяртаць назад, пакуль ён не паспытае крыві.
Ты ведаеш пра гэта, сын мой?
Я... Я чуў нешта падобнае, так.


Канешне, гэта ў боль-шай ступені легенда, чым праўда... перабольшаная скрозь стагоддзі з нейкай мудрагелістай мэтай, на маю думку.


І ўсё ж, гэтыя легенды бяруць свой пачатак з зернят праўды.


У сапраўднасці меч усяго толькі працяг воіна, што накіроўвае яго - прыла-да, а не жывая істота.
А прылада не можа быць крыважэрнай, гэта выключна чалавечая рыса.
Да чаго... Да чаго канкрэт-на ты вядзеш?


Толькі да таго, што Ароку Сакі спрабаваў зрабіць з цябе свой меч, Леанарда...
...А потым палічыў цябе нікчэмным, калі накіраваў цябе, а ты не стаў праліваць кроў.
У сапраўднасці ты даказаў памылковасць міфа - клінку воіна не абавязкова спрабаваць кроў, каб заставацца каштоўным.
Ты даказаў, што крыважэрнасць Сакі належыла толькі **яму**, і ніколі не была **тваёй**. Гэта не ты нікчэмны, сын мой...


...А Шрэдар.
Так, але... зараз я не вельмі адчуваю сябе пераможцам.
На самой справе, я амаль нічога не адчуваю.


Я разумею.
Сапраўды?


Быў час, сын мой, калі я адчуваў, што ў мяне не было іншага выбара, акрамя як паставіць крыж на ўсім, што мела для мяне значэнне, і скарыцца свайму болю.
Калі ласка, проста дай мне...
Але твая маці, Тэнг Шэн, не дазволіла мне.


Яна тады была цяжарная табой - нашым першынцам. I яна адмовілася дазволіць не павярнуцца спіной да сям'і.
Замест гэтага яна, з дапамогай кахання, дапамагла мне знайсці сілы і мэту, калі я ўжо лічыў, што ні на што больш не здольны.
Яна заўсёды была вельмі разумнай і здольнай пераконваць, твая маці...


...Яна і **зараз** такая ж.


Як...
Я ведаю, што ты адчуваеш разгубленнасць, сын мой. Ты ўсё яшчэ пад уладай цёмных хваль ілжывых балачак Шрэдара.
Але з нагоды адвечнай павагі і кахання да тваёй маці я не дазволю табе паставіць крыж на сваім жыцці... ці на сваёй сям'і.
Зараз, больш чым калі-небудзь, мы павінны аб'яднацца і стаць адзіным.




Чувакі, вы яго нарэшце адрамантавалі!
О, блін, згараю ад жадання паганяць на ім!


Ну, з гэтым табе прыйдзецца пачакаць, брат. Калі ганяць на ім па ўсёй ферме, наша прыкрыццё накрыецца хутчэй, чым ты паспееш сказаць «брудны карбюратар».
HONK HONK
Гэй, вось і Эйпрыл. Я паехаў, хлопцы.


Ведаеш, мабыць, у бацькі Эйпрыл тут знойдзецца стары трактар, з якім мы зможам пакапацца ў наст... Ого.
Ух ты.
Вось гэта да!


Я, эм... спынілася калі салона па дарозе да дому.
Падабаецца?


Ты выглядаеш выдатна!
Так, Эйпрыл, табе вельмі падыходзіць такі стыль.
Ого.




Я прыму гэта як «так», Кейсі.









А... прабач, што паводзіў сябе там як дурань, Эйпрыл. Ты мяне проста збянтэжыла сваім новым абліччам.

У добрым сэнсе.

Хех, канешне. **Будзь упэўнена**, у добрым сэнсе.



















Чаму ты спыніўся?
Таму што я хачу сказаць тое, што трэба было сказаць.


Слухай, ты прама зараз як Доні з бейсболам - **занадта шмат разважаеш** пра рэчы, якія на самой справе нескладаныя.
Я і гэты стары пацук... мы байцы. Мы можам загаіць свае раны і без гэтай зялёнай бурды. Я ўпэўнены, ён бы сказаў тое ж самае.
Ты... Ты ўпэўнены?
Не сумняваюся. Акрамя таго, па нам ужо клапаціцца доктар Доні.


Але ёсць хтосьці, каму сапраўды не пашкодзіла б гаючае зелле, і я ведаю, што ты разважала аб гэтым, але не кажаш аб гэтым услых.
Мой тата.
Так... Ён мае патрэбу ў гэтым больш,чым любы з нас.
Але ты ўпэўнена, што гэта **бяспечна**, Эйпрыл? Я маю на ўвазе, раптам ён ператварыцца ў вылізарнага яшчара ці ў штосьці падобнае?


Не, гэтага не здарыцца. Я праверыла нумар прабіркі ў запісах майго бацькі, і я ўпэўнена, што тут знаходзіцца толькі гаючы кампанент. Ніякага мутагена.
Таму так, я не сумняваюся, гэта дасць рэзультат. Гэта можа вылячыць майго бацьку.


Але напрошваецца пытанне: **як** я змагу даць гэта майму бацьку? Калі я скажу, што гэта, у іх за мамай з'явіцца куча пытанняў, на якія я зараз не гатова адказаць шчыра.
Клянуся, мне здаецца, што ўсе тыя сакрэты, якія мы захоўваем, ніколі не скончацца. І мяе гэта **раз'юшвае**.
Больш за ўсё на свеце я хачу быць шчырай са сваімі бацькамі. Але чарапахі? Сплінтэр? Гэта не **мая** тайна, каб раскрываць яе.


Эйпрыл... Што б ты ні вырашыла, я цябе падтрымаю. Але, па праўдзе, усё гэта не з маёй лігі.
Я ж казаў табе, мы байцы, мы можам біць і трымаць удар...


«...мудрагелістаць мы пакідаем на ваша разуменне».
Так, секундачку. Тое, што стокгена больш няма, гэта **добра** ці **дрэнна**?
Цяжка сказаць, Майкі. З аднаго боку, дрэнна, бо мы страцілі важныя доказы пра свае мінулае. З іншага - тое, што яны там рабілі, было даволі падазрона.
Праўда ў тым, што зараз нашым галоўным клопатам павінен стаць Тэхнадром.


Я павінен прызнацца, сыны. Перад самым пачаткам нашай бойкі з Арoку Сакі я таемна пранік у Стокген.
Што? Навошта?
Старому нячысціку спатрэбіўся мутаген, і я змог здабыць яго.
Вось, д'ябл... Цяпер у гэтай блышынай фермы ёсць мутаген? Пры ўсёй павазе, сенсэй, **чорт бяры**, аб чым вы думалі?


Я думаў пра вашага брата, Рафаэль. Больш ні аб чым.
Мне патрэбна была падтрымка Старога нячысціка ў бітве за выратаванне Леанарда, і гэта пераважыла мае асцярогі наконт яго сапраўдных намераў.
Сапраўдных намераў?! Гэты шалец хоча стварыць уласную **армію мутантаў**! Ён увесь час пра гэта казаў.
Так. І пасля таго, як я пакінуў Стокген, Стары нячысцік і Слэш засталіся ззаду. Зараз я лічу...
Тут і думаць няма чаго! Гэты хадзячы дыван **безсумненна** замешаны ў гэтым!
Чувак!


Гэй... Добра, што зараз гэта ўсё ў мінулым. Безумоўна ў нас усё яшчэ ёсць важкія прычыны, каб хвалявацца, але зараз мы хаця б зможам зрабіць гэта ў цішы і супакоі.

Парвіце іх!


Што за чорт?!
Хто гэта дурнаватая птушка?
І як яны знайшлі нас тут?


Рааагх!
Не...


...так проста не атрыма-ецца.
Уффф!


Пачакайце-ка...




Я ТАК І ВЕДАЎ!


Што за... Хто гэтыя блазны?!
SHK


Ассасіны «Фут»!
Ассасіны?
Так...


CHRK
...забойцы найвышэйшага класу!


Гэта ўсё **ты**!
Стой... Не...
Ты ўсё яшчэ з імі!
Уфф!


KRAK
SWIIP
Чувак, а дзе гэтая пту...


СК'УІІІ!
Беражыся!
Майк, ты ў норме?
Ага...










...Але мне так не хапае цішыні і спакою.


Сканцэнтры-руйцеся. Памя-тайце пра свае трэніроўкі...


...І бараніце сваю сям'ю!


TOK
SHHK
Чорт, шыбкія рабяты!


Грф!


Занадта шыбкія!


Хнк!
SHUK


KRK
Хайя!


Хррф!


Ты **прайграў**, пацук.
WHAP
Унх!


Бяжаць **некуды**.


Гатовы на зарэз?


Пацешна, птушка...

